Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

# Беларускі Звон

Радыкальная тыднёвая часопісь

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Літоўна 18.
Адрэс для карэспандэнцыі і падпіскі: паштовая скрынка № 19.
Прыйімо інтэрэсантаў ад 10 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.
Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—6 зл., за паўгоду—3 зл., за 3 мес. — 2 зл., за 1 мес.—50 гр.

Год I. Вільня, 23 сакавіка 1931 г. № 6

## Чорны год.

Ад дня 25 сакавіка 1918 году для Беларускага Народу пачалася новая эра: у гэты дзень — праз высны народных выбранцаў у Радзе Рэспублікі—*Беларусь абвясьціла себя вольнай і незалежнай дзяржавай.* І ад гэтага мамэнту для нас пачаўся і новы рахунак часу: мы з году ў год адзначаем гістарычны дзень 25-га сакавіка, адзначаем, колькі ўжо гадоў мінула ад абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі.

Трынаццаты раз робім мы гэта сёлета. Як у дзень агульна прынятага Новага Году людзі зварачаюцца да перажытага за мінулы час і робяць падрахунак усіх плюсаў і мінусаў, так і мы ў дзень 25 сакавіка робім падрахунак у нашай нацыянальнай і дзяржаўнай працы. Але сёлета гэты падрахунак дужа, дужа сумны. Як быццам апраўдываецца вера народу ў фатальнае значэньне цыфры 13: бо трынаццаты год ад пачатку новае эры беларускага жыцьця аказаўся запраўды-ж для нас **чорным годам.**

Акт 25 сакавіка 1918 году, як ведама, ня мог быць праведзены ў жыцьцё: незарганізаваны й безаружны Беларускі Народ ня здолеў скінуць з сябе падвойнага ярма, якое было тады нам узьдзета нямецкімі і маскоўскімі акупантамі. І над усей Беларусяй запанавала непадзельна Масква, перайімаючы крок за крокам беларускія абшары, пакіданыя нямецкім войскам. Але, ня гледзячы на сваю перамогу, Масква не магла ня лічыцца з выяўленай Беларускім Народам воляй—жыць самастойным, ад нікога незалежным жыцьцём. І маскоўская савецкая ўлада прызнала патрэбным зрабіць від, што абвешчаны бальшавікамі прынцып „самавызначэньня народаў ажно да поўнага аддзяленьня"—ня пусты гук. І у выніку гэтага ў дзень 1 студня 1919 г. у Менску ўрачыста было абвешчана ўтварэньне *Савецкае Беларусі, як незалежнае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі,* в „добрае волі" сваей аб'ядна́ўшаеся з Маскоўшчынай, І хаця „незалежнасьць" гэтае Беларускае Рэспублікі была дужа сумлі́ўная, хаця толькі ў галіне культурна-асьветнае і гаспадарчае працы беларусы мелі магчымасьць сваімі рукамі будаваць сваё жыцьцё, падлягаючы цалком палітычнаму кіраўніцтву Масквы,—усё-ж такі самы факт абвяшчэньня Савецкае Беларусі быў красамоўным доказам правільнасьці і жыцьцёвасьці становішча, якое 25 сакавіка 1918 году занялі тварцы акту аб незалежнасьці: рэвалюцыйная бальшавіцкая ўлада была прымушана сама стануць на гэтым-жа становішчы—хаця-ж толькі тэорэтычна.

Хоць і куртатая была гэная бальшавіцкая незалежнасьць Беларусі, але яна ў працягу добрага дзесятку гадоў давала магчымасьць беларусам сваімі ўласнымі рукамі будаваць сваё нацыянальнае жыцьцё. Адчыняліся тысячы беларускіх школ на тым абшары,—пасьля вайны Саветаў з Польшчай—астаўся пад уладай Маскоўшчыны. Адчыняліся дзесяткамі беларускія сярэднія школы, а над усей шырака раскінутай беларускай школьнай сеткай красаваў у Менску Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт. Закіпела выдавецкая праца: што-дня на кніжны рынак выкідаліся новыя беларускія кніжкі — ці то літэратурнага, ці навуковага, ці ўтылітарнага—практычнага зьместу. Разьвіваўся беларускі тэатр, беларускае мастацтва ўсіх відаў. А разам з тым наладжывалася на новых падставах жыцьцё беларускага сялянства, якому дасталася блізу ўся былая дворная і казённая зямля. Улада Савецкае Беларусі ў працягу дзесяцёх гадоў энэргічна працавала над падняцьцем выдайнасьці сялянскіх гаспадарак, пераводзячы сялян на хутары, дастаўляючы ім усе патрэбныя гаспадарскія прылады, лепшае насеньне і г. д., ды ўсяляк стараючыся дайсьці да таго, каб селянін сваім хлебам мог выкармліваць гарады і сам добра жыў.

Але мінула дзесяць гадоў такое працы, і раптам у палітыцы Масквы нешта зьмянілася. У творчай культурна - нацыянальнай працы беларусаў маскоўскі нацыяналізм, які быў прыхаваў сьпярша свае рогі пад лёзунгамі інтэрнацыяналізму, раптам угледзіў „нацыянал-дэмакратызм", „буржуазную ідэалёгію", варожую Саветам. А ў хутарскай палітыцы на вёсцы дык маскоўскія „прававерныя" камуністы выкрылі ўжо „запраўдную контррэвалюцыю". *І Масква адкрыта абвясьціла Беларусі — вайну.* На беларускую савецкую ўладу, на беларускіх культурных працаўнікоў пасыпаліся адзін за адным цяжкія ўдары. Увесь цьвет беларускае інтэлігенцыі — каля 200 душ, якія былі запраўднымі тварцамі Савецкае Беларусі, — апынуўся ў вастрогах. Беларускія ўстановы папалі пад кіраўніцтва людзей, якія нічога супольнага з Беларускім Народам ніколі не мелі і не маюць. Багатая беларуская літэратура, твораная з нязвычайным высілкам гэтай-жа беларускай інтэлігенцыяй, абвяшчаецца „контр-рэвалюцыйнай" і падлягае зьнішчаньню. Нішчаць масова беларускія школьныя падручнікі. А ўся стройная хутарская арганізацыя сялянскае гаспадаркі адным махам абвяртаецца ў руіну, на якой маюць расьці „калектыўныя гаспадаркі", ператвараючы вольных дагэтуль гаспадароўхлебаробаў у прыгоньнікаў дзяржавы...

І ўсё гэта прыпадае на фатальны для нас *шрынаццаты* год нашае новае эры. Але Масква не абмежываецца гэткай расправай з беларусамі на *савецкай* тэрыторыі: яна мае спосаб павясьці барацьбу і з тымі тварцамі беларускае незалежніцкае ідэолёгіі, якія жывуць у *Заходняй Беларусі* — пад Польшчай. Даўгія рукі мае Масква і сягае далёка. І нішчацца беларускія адраджэнска-незалежніцкія сілы і ў нас, на Захадзе: адных камуністычная партыя стараецца *забіваць маральна, абліваючы іх гразёю*; другіх—*правакуе і выдае ў рукі ўладаў, як прыхільнікаў камунізму*... А ў сувязі з гэтым ідзе сярод нашага грамадзянства страшэнная дэмаралізацыя: адны з нашых братоў, веручы тэй жа Маскве і яе экспозытуры—камуністычнай партыі, самі-ж прыкладаюць руку да нішчэньня жывых беларускіх сілаў; другія—прыхільнікі гэтак-званага „чорнага інтэрнацыяналу" (клерыкалы) — ганебна таргуюць беларускай зямлёй і за юдавы срэбнікі ці пасольскія мандаты топчуць у гразь асноўны прынцып акту 25 сакавіка 1918 году і зракаюцца на карысьць чужых народаў і Вільні, і Горадні, і Берасьця, і Пінску...

Калі-б мы, робячы наш падрахунак у трынаццатыя ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі, угледзіліся адно толькі на найбліжэйшыя да нас падзеі, дык запраўды-ж сумныя вывады трэба было-б зрабіць для справы зьдзейсьненьня нашага найвялікшага нацыянальнага ідэалу.

Але, хто ўмее глядзець на справы глыбей і шырэй, у таго *для роспачы мейсца ня дудзе.* Бо мы можам адзначыць два нязвычайна важныя заваяваньні беларускае справы наагул. Адно з іх—гэта тое, што *беларуская справа, дзякуючы акту 25 сакавіка 1918 г, і пазьнейшаму савецкаму будаўніцтву Беларусі, сталася справай міжнародавай*, справай, ведамай на ўсім культурным сьвеце, а крывавая самаахвяра Ігнатоўскага і Янкі Купалы мусіла ўзварушыць сэрцы ўсіх, хто здолен да людзкіх пачуцьцяў, напамінаючы аб цяжкай крыўдзе нашай. Другое — яшчэ важней: калі дзесяць гадоў назад толькі малая жменька слуцкіх пастанцаў выступіла на аружную барацьбу з Масквой за незалежнасьць Беларусі, дык цяпер — пасьля менскіх падзеяў, пасьля зьмены адносінаў маскоўскіх камуністаў да беларускага пытаньня—*ў самых шырокіх масах ідэя незалежнасьці мусіць здабыць вялізарны лік прыхільнікаў.*

